

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.** Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 479 Сьнежань 2002 г.** Год выданьня 52


# КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ВАШЫНГТОНЕ

У Вашынгтоне 14-га лістапада адбылася канфэрэнцыя пад назваю "Вось зла: Беларусь-прапушчанае зьвяно". Канфэрэнцыя гэтая была арганізаваная шэрагам уплывовых няўрадавых структураў ЗША, у тым ліку Амэрыканскім Прадпрымальніцкім Інстытутам, што стаў гаспадаром канфэрэнцыі , арганізацыямі "Фрыдэм Гаўз" ("Дом Волі"), Міжнароднай Лігай Правоў Чалавека, Нацыянальнай Фундацыяй у Падтрымку Дэмакратыі, Радыё Свабода ды шэрагам іншых. Пра "вось зла" ўпершыню згадаў прэзыдэнт Буша, калі гаварыў пра супрацьдзеяньне тэрарызму і дзяржавы, што падтрымоўваюць яго, утвараючы "вось зла". Беларусь тады не згадалі. Але, высьвятляецца, рэжым Лукашэнкі падтрымліваў Ірак пастаўкамі зброі, транзытам расейскай зброі, а таксама падрыхтоўкай вайсковых спэцыялістаў. Такая дзейнасьць ідзе ў парушэньне міжнародных санкцыяў, таму Беларусь "прапушчанае зьвяно".

Канфэрэнцыю вёў супрацоўнік праекту "Новая Атлянтычная Ініцыятыва" пры Амэрыканскім Прадпрымальніцкім Інстытуце, былы намесьнік міністра замежных справаў і міністра абароны Польшчы сп. Радэк Сікорскі. Вельмі добра выказаўся былы кангрэсмэн Сэм Гэйдэнсан. Ён распавёў прысутным, што яго бацьку, беларускага габрая з Парафянава ля Докшыц, выратавалі падчас вайны дзьве беларускія сям'і. Нядаўна сп. Гэйдэнсан сустракаўся з гэтымі людзямі. У іхных хатах - поўная галеча, ледзьве хапае хлебу. Яны закінутыя, забытыя ўладамі. На ўсе пытаньні яны адказвалі так: " Мы людзі малыя, ня маем голасу, ня можам нічога зрабіць". Далей выступоўца сказаў: "Няма іншай краіны ў Эўропе, якая-б адпакутавала болей за Беларусь. Нажаль, гэтыя пакуты цягнуцца і сёньня. Таму задача вольнага сьвету - даць гэтым "малым людзям" разуменьне і сілу, дапамагчы вызваліцца ад аўтарытарнага рэжыму. І не таму, што рэжым Лукашэнкі дапамагае Садаму, а дзеля таго - што гэты рэжым кожны дзень робіць беларускім людзям."

Затым выступіў амбасадар ЗША ў Беларусі сп. Майкл Козак. Ён у прыватнасьці сказаў: "Чаму Беларусь, адна з найбольш разьвітых рэспублікаў былога СССР, сёньня ў ізаляцыі й галечы, тады як ейных суседак, іншыя былыя савецкія рэспублікі, прымаюць у сябры Эўрапейскага зьвязу і ў НАТО? Віною гэтаму дрэнныя палітычныя рашэньні. Антыдэмакратычны рэфэрэндум і зьбіты амэрыканскі паветраны шар у 1995-м годзе, разгон парляманту ў 1996-м, зьнікненьне беларускіх апазыцыйных дзеячоў, ціск на незалежны друк цалкам зьмянілі стаўленьне да Беларусі ў краінах вольнага сьвету. У 2001-м годзе прайшлі прэзыдэнцкія выбары, ход якіх не адпавядаў міжнародна прынятым стандартам. Цяпер беларускаму боку былі прапанаваныя дэтальны плян паляпшэньня стану правоў чалавека й дэмакратычных свабодаў у Беларусі, але ён быў адкінуты. Наагул, кожны крок у гэтым кірунку ўспрымаецца кіраўніцтвам Беларусі як "узброеньне апазыцыі", зь якой тое ня хоча мець аніякага дыялёгу. Насьцярожваюць таксама кантакты беларускіх уладаў з рэжымам Садама Гусэйна і нерасьсьледаваныя паведамленьні аб магчымых пастаўках зброі Іраку". Сп. Козак адзначыў, што амэрыканскі бок распрацаваў новы пакрокавы падыход у адносінах да Беларусі. У дадзены перыяд беларускім уладам была прапанаваная дапамога й супрацоўніцтва ў справе барацьбы з тэрарызмам і высьвятленьня інфармацыі пра пастаўкі зброі Іраку і навучаньне іракскіх вайскоўцаў. Нажаль, зь беларускага боку не было канструктыўнага адказу на гэтыя прапановы. Працягваецца таксама праца з грамадзянскім супольніцтвам у Беларусі. У бягучым годзе ўрад ЗША выдаткаваў 30 млн. даляраў на дапамогу Беларусі ў сфэры аховы здароўя, падтрымкі незалежных мэдыяў, праграмаў абмену досьведам, маладзёвых арганізацыяў і г.д. Сп. Козак выказаў упэўненасьць, што Беларусь будзе вольнай дэмакратычнай краінай Эўропы.



*Зьлева направа В. Станкевіч, А. Саньнікаў, І. Красоўская, А. Лябедзька, В. Зайка (сядзіць), Р. Сікорскі, А. Сільвановіч, А. Сёмуха, Я. Максімюк, Б. Данілюк.*

Затым выступіў былы кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі сп. Ганс-Георг Вік. Напачатку ён адзначыў, што Беларусь заслугоўвае на значна большую ўвагу міжнароднай грамадзкасьці. Безумоўна, вольны сьвет мусіць дапамагаць дэмакратычнай апазыцыі й супрацьдзейнічаць сёньняшняму аўтарытарнаму рэжыму ў Беларусі. Галоўнай-жа мэтай сп. Вік назваў наладжваньне дыялёгу паміж уладамі й апазыцыяй. У 1999-м годзе назіраўся пэўны посьпех, але ў 2000-м годзе Лукашэнка фактычна зруйнаваў усе магчымасьці.

Сп. Вік дадаў цікавую рэч: расейцам было прапанавана зьмяніць сваё стаўленьне да беларускай апазыцыі й збалянсаваць свой уплыў на беларускім палітычным полі ў абмен на абяцаньне эканамічных ільготаў і бонусаў для іх у Беларусі. "Расейцы адмовіліся, і цяпер яны шкадуюць пра гэта." Ад сябе дадам - ці ня ёсьць гэты гандаль паміж сп. Вікам і Крамлём квінтэсэнцыяй усёй ягонай дзейнасьці, што панесла паразу? Брыдка слухаць, як лёс Беларусі вырашаюць чужынцы, але такая сёньняшняя рэальнасьць, падтрыманая, на жаль, дэмаралізацыяй і абыякавасьцю большасьці беларускага грамадзтва. Шэраг слушных прапановаў і заўвагаў сп. Віка не павінны засьціць таго, што на працагу амаль 4 гадоў, сьведама ці нясьведама, гэты дасьведчаны палітык гуляў на руку Лукашэнку і спрычыніўся тым самым да ўзмацненьня рэжыму.

Пасьля гэтага прайшлі сэкцыйныя паседжаньні, першае зь якіх мела назву "Катастрофа правоў чалавека ў Беларусі". На ёй паказалі ўрыўкі з фільму тэлежурналіста Паўла Шарамета "Дзікае паляваньне". Выступілі сп. Шарамет, сп-ня Ірына Красоўская, жонка зьніклага разам з палітыкам Ганчаром бізнэсоўца Анатоля Красоўскага, кіраўнік апазыцыйнай арганізацыі "Хартыя-97" сп. Андрэй Саньнікаў і сяброўка камісыі Кангрэсу ЗША па рэлігійных свабодах у сьвеце, дырэктарка Цэнтру Рэлігійных Свабодаў пры "Фрыдэм Гаўз" сп-ня Ніна Шый. Вёў паседжаньне сп. Томас Дайн, прэзыдэнт Радыё Вольная Эўропа/Радыё Свабода, які пачаў паседжаньне словамі: "Ці зьяўляецца вольнай сёньняшняя Эўропа? Посьпехі эўрапейскай інтэграцыі ня мусіць засланіць небясьпекі, якую нясе апошні дыктатар кантыненту, Лукашэнка. Калі я спытаў кіраўніка Беларускай службы Радыё Свабода, сп. А. Лукашука: "Колькі ў Беларусі палітычных вязьняў?", то ён адказаў: "Дзесяць мільёнаў мінус адзін". Мы не дамо гэнаму сталіністу ў Менску забіраць ад людзей свабоду. Мы працуем дзеля гэтага, і я маю гонар заявіць сёньня, што беларускамоўныя праграмы ідуць па 8 гадзінаў штодня."

Своеасаблівым ляйтматывам наступных прамоваў сталі першыя словы журналіста Шарамета, па-расейску: "Дамы і господа, позвольте говорить по-русскі. Тема настолько волнітельна, что сложно выразіць все нюансы на каком-то другом языке" ("Спадарства, дазвольце гаварыць па-расейску, бо тэма нагэтулькі кранальная, што цяжка выказаць усе шчыгулы на нейкай іншай мове"). Было прыведзена шмат фактаў лукашэнкавага беззаконьня, але цэлы час Расея згадвалася як пажаданы й неабходны гулец у беларускай палітыцы, "яна сёньня найбольш уплывае на беларускага лідэра". Гэтае пачуцьцё бездапаможнасьці вынікае з адкіданьня шэрагам дзеячаў апазыцыі нацыянальнага шляху ў палітычным і культурным жыцьці Беларусі.

Сп. А. Саньнікаў адзначыў, што дэмакратычным сілам Беларусі трэба рыхтавацца да парлямэнцкіх выбараў. У краіне расьце пазытыўнае стаўленьне да Эўразьвязу і НАТО, адбываюцца зьмены ў сьведамасьці людзей і адносна Лукашэнкі. Эўрапейскія палітычныя колы мусяць надаць большую ўвагу падзеям у Беларусі, дапамозе апазыцыі.

*Працяг на бач. 3*



## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

### ПРЭЗЫДЫЮМ

### ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ Ў ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ

27-га лістапада 2002-га году — Атава, Канада

Дарагія суродзічы!

Ад тмя Рады Беларускае Народнае Рэспублікі вітаю Вас з угодкамі слаўнага Слуцкага Збройнага Чыну. Наш народ мае права ганарыцца Слуцкімі героямі, якія былі гатовыя аддаць свае жыцьці, каб жыла Бацькаўшчына!

Небясьпека незалежнасьці Беларусі значна завастрылася ў гэтым 2002-м годзе. Пасьля сямі гадоў гульні ў саюз з Расеяй і недапушчальнай замежнай палітыкі ў дачыненьні да вольнага сьвету, Лукашэнка давёў наш край ня толькі да поўнай ізаляцыі, але і да адмоўнага стаўленьня да Беларусі з боку нават найбольш дабразычлівых заходніх дзяржаваў. Маскве толькі гэтага і патрэбна. Беларусь цяпер ізаляваная нагэтульки, што Пуцін не пасаромеўся прапанаваць уключыць яе ў склад Расеі.

Калі наш народ не дакажа, што ён зьяднаны ў змаганьні за сваю незалежную і дэмакратычную дзяржаву, і што ён не дазволіць, каб усходні сусед зноў паняволіў яе, Захад можа даць Пуціну вольную руку. А тут няма патрэбы прыпамінаць, як Масква адносіцца да народаў свае імпэрыі, якія жадаюць з-пад яе вызваліцца. Хопіць глянуць на падзеі ў Чачні.

І таму, дарагія Суродзічы, карыстаю гэтую нагоду, каб заклікаць Вас да салідарнасьці з усімі тымі, хто бароніць незалежнасьць, дэмакратыю і добрае імя нашага краю. Шануйце тых, хто змагаецца за Ваш дабрабыт, за Вашую годнасьць. Выказвайце ім сваю падтрымку. Трэба, каб сьвет пабачыў, што народ наш не прадасьць ужо сваёй душы за некалькі "чырвонцаў". А там, дзе моцная душа, і зброя можа аказацца непатрэбнаю. Самая моцная сіла ў адзінстве. У салідарнасьці вакол ідэалу свабоды будзе найбольш пасьпяховая нашая абарона перад агрэсыяй адкуль-бы яна не ішла.

Ведаю, што гэта вымагае з Вашага боку мужнасьці й адвагі. Але-ж гэтую мужнасьць і адвагу мелі нашыя папярэднікі, у тым ліку гераічныя ўдзельнікі Слуцкага Збройнага Чыну. Няўжо у нас яе ня стане? Дык дапамажы нам Божа!

Жыве Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА*
*Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі*

 



# СЬВЯТА Ў ЧЫКАГА



*Выступае вакальна-інструмэнтальны гурт "Забава".*

Прадстаўнікі розных хваляў эміграцыі зь Беларусі, што жывуць у Чыкага і ваколіцах, сабраліся ў нядзелю 24-га лістапада ў рэлігійна-культурным цэнтры пры Беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я. Сьвята было прысьвечанае юбілеям дзеячоў культуры, творчасьць якіх непарыўна звязаная зь Беларусьсю: 120-годзьдзю нашых вялікіх песьняроў Янкі Купалы й Якуба Коласа, 115-годзьдзю мастака Марка Шагала і 90-годзьдзю аднаго з майстроў віцебскай мастакоўскай школы Хаіма Ліўшыца, які апошнія гады свайго жыцьця жыў і працаваў у Чыкага. Усе гэтыя юбілеі прыпадалі на гэты год.

Пасьля царкоўнай службы арганізатар сьвята а. Дзьмітры Башко назваў гэты фэст урачыстым актам, асабліва падкрэсьліўшы важнасьць еднасьці й творчых зносін людзей розных рэлігійных канфэсіяў, якія праз усё жыцьцё нясуць любоў да Беларусі. Прачытаўшы верш Янкі Купалы "Зашумела гулка восень...", ён настроіў прысутных на лірычны лад, навеяны вобразамі роднай зямлі.

Вялікі сьвяточны канцэрт распачаў беларускі вакальна-інструмэнтальны гурт у складзе: Уладзімер Верабʼёў (акардэон, кіраўнік гурта), Ірына Грыгаровіч (цымбалы), Андрэй Васіленка (альт), Валеры Явар (флейта) і Пятро Кляпацкі (ударныя). Гучалі папулярныя беларускія мелёдыі, песьні, танцы. Танчылі амаль усе, хто прыйшлі на гэты фэст.

Вядомы ў Чыкага кампазытар і паэт Міхась Клейнер зь велізарнейшым пачуцьцём і глыбокім пранікненьнем у вобразную структуру паэтычных тэкстаў выканаў напісаныя ім рамансы на вядомыя вершы "О Беларусь, мая шыпшына" Уладзімера Дубоўкі, "Я ад вас далёка" Янкі Купалы й "Якія вы ўсе маладыя" Генадзя Бураўкіна. З захапленьнем сустрэлі ўсе Алену Бярнат, якая выканала беларускія народныя песьні "Купалінка" і "Ажаніла маці маладога сына". У канцэрце прынялі ўдзел таксама сьпевакі Ноах Марсэлл і Галіна Паўлава. Амэрыканскі нацыянальны гімн прасьпявала зусім яшчэ юная Ганна Васіленка.

І зноў пранікнёна гучаў у гэтым зале Янка Купала: адзін з ведамых ветэранаў беларускай эміграцыі Міхась Каленік прачытаў вершы "Раніца ў нядзельку" і "Над Нёманам". У гэты дзень у зале разгорнулі мастацкую экспазыцыю, на якой былі выстаўленыя карціны мастака Х. Ліўшыца "Янка Купала і яговая Муза", "Янка Купала і Кузьма Чорны ў Пячышчах у 1942 годзе", а таксама яговыя цудоўныя пейзажныя палотны, на якіх - краявіды Віцебска і другіх прыгожых мясьцінаў Беларусі.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ**

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

## У СЫДНЭІ

У нядзелю, 17-га лістапада, беларусы Сыднэю і ваколіцаў сьвяткавалі 82-я ўгодкі Слуцкай Абароны й 120-я ўгодкі нараджэньня Якуба Коласа. Сьвяткаваньне пачалося ў Гомэбушскай праваслаўнай царкве, дзе а. Ігар Хлябіч пасьля Літургіі адслужыў паніхіду па ўсіх загінуўшых жаўнерах, што змагаліся за Волю і Свабоду свайго краю і народу. Перад цалаваньнем крыжа а. Ігар сказаў цікавую патрыятычную казань.

Потым перайшлі ў беларускі клюб на акадэмію і абед. Пра Слуцкую Абарону, гераізм і гістарычную важнасьць гэтае падзеі распавёў Міхась Лужынскі. Уставаньнем і хвілінаю цішы ўшанавалі памяць тых, "што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Сп. Янка Гавенчык прадэклямаваў верш "Маці сына чакае з вайны".

Пра жыцьцё і творчасьць Якуба Коласа распавяла др. Слава Лугенчанка, якая ведала народнага паэта. Яе бацька, таксама доктар мэдыцыны, быў частым апанэнт Коласа па шахматах. Абедзьве сям'і часта абменьваліся візытамі. Слава зазначыла, што ў доме Коласа гутарылі выключна па-беларуску, тады калі ў Пятра Глебкі ды некаторых іншых літаратараў паслугоўваліся расейскаю моваю. Цікавы аповяд, а таксама дэклямацыя ўрыўка з паэмы "Новая зямля" далі Славе залужанае прызнаньне доўгімі воплескамі. Верш "О, край родны, край прыгожы" пачуцьцёва прадэклямавала Аўгеня Супрунюк, Міхась Лужынскі прачытаў урывак з "Сымон-музыка".

Пасьля акадэміі адбыўся супольны абед, як заўсёды багаты й вельмі смачна прыгатаваны Маняю Супрунчык, Валяю Пляхоцкаю і Аўгеняй Супрунюк. Кажуць, што ў добрай кампаніі галёпам бяжыць час, і гэта праўда, бо не агледзеліся, як на плоце павісла сонца. На разьвітаньне сп-ва Гавенчыкаў падаравала Вячаславу Элькановічу прыгожы беларускі пояс за яговыя заслугі ў радыёвяшчаньні.

**М. ЛУЖЫНСКІ**

## У ЛЁНДАНЕ

Сябры Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі ўрачыста адзначылі 82-я угодкі Слуцкага Збройнага Чыну ў Лёндане ў суботу 23-га лістапада. Цікавы й зьмястоўны даклад з гэтае нагоды прачытаў сп. Мікалай Пачкаеў.



*Мікола Пачкаеў чытае даклад.*

# ЗАПУСНЫЯ БЛІНЫ

адбыліся ў нядзелю, 24-га лістапада, у царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі. Літургію адслужыў а. Вячаслаў. Добра пяяў хор, якім кіраваў сп. Якуб Сапежынскі.Пасьля Багаслужбы была паніхіда па загінуўшых змагарах Случчыны.

Пасьля маленьня, усе перайшлі ў царкоўную залю, у якой сп. Алесь Крыштаповіч зрабіў выставу сваіх фатаздымкаў. Там выступіў сп. Зянон Пазьняк, які нагадаў пра гістарычныя падзеі на Случчыне 82-гадовай даўніны.

Быў падрыхтаваны абед, бульбянікі з каўбасою, верашчака, кіслая сьмятана і скваркі. Абед прыгатавалі сп-ні Галіна Яновіч і Люся Кернэр. Каўбасы зрабілі сп-ва Ала і Віктар Дубяга. Закончыўся супольны абед малітваю а. Вячаслава.

**Кастусь ВЕРАБЕЙ**

# СЯБРОЎСКАЯ НАРАДА Ў ВАШЫНГТОНЕ

Пасьля канфэрэнцыі па Беларусі, якая прайшла 14-га сьнежня ў Вашынгтоне, прысутныя беларусы выкарысталі нагоду зладзіць нефармальную сяброўскую нараду. Былі прысутныя прадстаўнікі розных партыяў зь Беларусі, прадстаўнікі дыяспары з розных месцаў Амэрыкі й таксама прадстаўнікі з Прагі.

**Асноўная тэма нарады: чым можам адны другім дапамагчы?**

Вынікам гутаркі былі прапановы:

***Інфармаваць палітычных прадстаўнікоў ЗША пра Беларусь.*** Асабліва зьвяртаць увагу на ўплывовых палітыкаў там, дзе знаходзяцца старыя і новыя эмігранты зь Беларусі. Каб канцэнтраваць свае абмежаваныя магчымасьці, будзе створаны сьпіс палітыкаў, якія бываюць у Беларусі й ужо маюць нейкае зацікаўленьне. Бо шмат лягчэй уплываць на 20-30 выбраных асобаў, чым на цэлы Кангрэс.

***Рыхтаваць беларускіх перакладчыкаў.*** Калі прадстаўнікі зь Беларусі прыяжджаюць на Захад і хочуць прамаўляць па-беларуску, амаль заўсёды атрымліваюць адмоўны адказ - няма беларускіх перакладчыкаў з сэртыфікатам. Ім даводзіцца карыстацца расейскім перакладчыкам, калі ня ведаюць мясцовай мовы. Цяпер сытуацыя можа зьмяніцца, бо ёсьць маладыя беларусы, якія добра валодаюць шэрагам моваў, уключна зь беларускаю, і маем спэцыялістаў у атрыманьні сэртыфікатаў, якія гатовыя памагаць яго здабыць. А кваліфікаваныя перакладчыкі заўсёды добра зарабляюць у розных установах і пры розных народах.

***Дапамагаць часова падзарабіць на Захадзе.*** Цяпер магчымасьці падзарабіць ёсьць і, калі нехта захоча забясьпечыць сабе працу або стыпендыю, можна разьлічваць на дапамогу мясцовае дыяспары. Але, каб не марнаваць абмежаваныя сродкі дапамогі, кандыдаты павінныя загадзя гэта ўзгадніць са сваімі арганізацыямі, якія пасьведчаць, што яны на гэта заслугоўваюць.

***Пісаць артыкулы ў выданьні Радыё Свабода.*** Тут патрабуюцца спэцыялісты ў галіне эканомікі, сацыялёгіі й падобных навуках, якія згодныя пісаць кароткія артыкулы (800 словаў і менш) па-ангельску. Неабавязкава пісаць выдатна паангельску, бо артыкулы праходзяць моўную і стылістычную рэдакцыю. За такія артыкулы, калі іх зьмесьцяць ў RFE/RL Newsline або Poland Belarus Ukraine Report, някепска плацяць.

***Пісаць лісты ў рэдакцыі мясцовых газэтаў на Захадзе.*** "сьць два посабы зьмяшчаць інфармацыю пра Беларусь. Адзін - гэта рэагаваць на весткі й артыкулы, а другі - паведамляць пра беларускія падзеі ў дадзенай мясцовасьці. У невялікіх мясцовых газэтах часта ўдаецца зьмясьціць інфармацыю зьвязаную з нейкаю датаю, 25-м Сакавіком, Чарнобылем і падобнымі.

***Пасылаць сьвяточныя прывітаньні замежным лідэрам.*** На Захадзе прынята, што розныя установы, грамадзкія і палітычныя прадстаўнікі пасылаюць сьвяточныя прывітаньні шырокаму колу сваіх прыхільнікаў і знаёмых. Пажадана, каб і беларускія лідэры асвоілі гэты спосаб здабываньня і трыманьня карысных кантактаў.

*Чытачоў "Беларуса", якія жадаюць атрымаць больш інфармацыі аб вышэй згаданых прапановах або дадаць свае ідэі й парады просім зьвяртацца ў рэдакцыю газэты.*

**Вячка СТАНКЕВІЧ**

# КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ШВЭЦЫІ

8-га лістапада 2002-га году ва ўнівэрсытэце Паўднёвага Стакгольму (Стакгольм, Швэцыя) адбылася навуковая канфэрэнцыя прысьвечаная Беларусі "Contemporary Change in Belarus". З гадзіннымі лекцыямі выступілі:

Праф. Дэвід Марплс (Унівэрсытэт Альберты, Канада) "Прэзыдэнства Лукашэнкі й будучыня Беларусі." Праф. Марплс - аўтар двух манаграфіяў, прысьвечаных Беларусі па-ангельску.

Аляксандар Анціпенка (Беларускі калегіум, Менск) "Беларусь: пост-савецкае/пост-каланіяльнае разьвіцьцё й перспэктывы эўрапейскай інтэграцыі."

Барбара Торнквіст-Плева (Унівэрсытэт Люнду, Швэцыя) "Беларусь - прыклад запозьненага нацыя-будаўніцтва." Барбара Торнквіст-Плева - аўтар двух манаграфіяў, прысьвечаных Беларусі па-швэдзку.

Анна Бражоўска (Унівэрсытэт Будапэшту, Вугоршчына) "Дыскурс улады: Разуменьне Беларусі праз прызму канфлікту дэмакратычнай эліты й народу."

Андрэй Котлярчук (Унівэрсытэт Паўднёвага Стакгольму, Швэцыя) "Традыцыя беларускай дзяржаўнасьці: "вайна" за мінуўшчыну Беларусі." Андрэй Котлярчук - аўтар двух манаграфіяў, прысьвечаных Беларусі па-беларуску й па-расейску.

Пасьля лекцыяў адбылася 2-гадзінная дыскусія падчас якой была вызначаная роля Беларусі ў будучыні Балтыцкага рэгіёну. На канфэрэнцыі прысутнічалі каля 50 гасьцей. Апошняе сьведчыць пра рост цікавасьці да Беларусі ў Швэцыі.

Арганізатарам канфэрэнцыі была школа Балтыцкіх і Ўсходнеэўрапейскіх досьледаў Унівэрсытэту Паўднёвага Стакгольму на чале з Праф. Дэвідам Гаўнтам.

Зборнік матэрыялаў канфэрэнцыі рыхтуецца да выданьня.

**Андрэй КАТЛЯРЧУК**

 

# Беларусь за месяц

## ПАДТРЫМКА ПАЛЯКАЎ

4-га кастрычніка найбуйнейшае польскае выданьне "Газэта Выборча" распачала акцыю ў падтрымку зьняволеных беларускіх журналістаў Міколы Маркевіча, Паўла Мажэйкі, Віктара Івашкевіча, а таксама супраць закрыцьця незалежных беларускіх газэтаў. Чытачам "Газэты Выборчай" прапаноўвалася дасылаць пратэсты Лукашэнку на адрас рэдакцыі. Пад пратэстамі падпісалася паўтары тысячы чалавек, сярод якіх былі ляўрэат нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры Чэслаў Мілаш.

24-га лістапада журналісты перадалі пратэсты ў амбасаду Беларусі ў Польшчы.

У Беларусі працягваецца акцыя, ініцыяваная Беларускай асацыяцыяй журналістаў, па адмене трох артыкулаў Крымінальнага кодэксу (за паклёп на прэзыдэнта, за абразу прэзыдэнта, за абразу службовай асобы), пад якія можна падвесьці любога журналіста і любую недзяржаўную газэту.

## ДЗЯДЫ

Каля тысячы чалавек сабралася на Дзяды ў Курапатах. Як і ў мінулыя гады, акцыі ладзілі розныя групы. Прыхільнікі Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыяй БНФ (каля паўтысячы) зьбіраліся ля станцыі мэтро Парк Чалюскінцаў, Партыі БНФ (каля 150 чалавек) - ля станцыі мэтро "Усход". Пабачыўшы, што іх прыхільнікаў значна меней, "вячоркаўцы" мусілі далучыцца да больш масавай групы КХП БНФ, і аб'ядная група разам рушыла да Курапатаў, дзе адбыўся супольны мітынг.

## АНАРХІСТЫ МІТЫНГАВАЛІ

У халодны марозны дзень 7-га лістапада беларускія камуністы (старшыня Сяргей Калякін) сабраліся на мітынг, каб ушанаваць Дзень кастрычніцкай рэвалюцыі. Яны амаль подбегам прайшлі ад Акадэміі навук да плошчы Бангалёр. На імправізаваным мітынгу шмат казалі пра сьветлыя і прыгожыя ідэі бальшавіцкага перавароту, пра тое, што рэвалюцыя вывела паўфеадальную, бедную, п'яную Расею ў перадавыя краіны сьвету, пра тое, што Беларусь займала ў гэтай сям'і пачэснае месца.

Разьвесялілі журналістаў, прысутных на акцыі, беларускія анархісты. Калі камуністы зацягвалі свае лозунгі, кшталту: "Ленін, партыя, кастрычнік, камунізм", анархісты скандавалі: "Сталін, Бэрыя, ГУЛАГ".

## АКЦЫЯ 17-ГА ЛІСТАПАДА

17-га лістапада ў Менску прайшла акцыя апазыцыі ў абарону незалежнасьці Беларусі. "Беларус" ужо пісаў, што 23-га верасьня лідэрамі асноўных апазыцыйных партыяў (БНФ, АГП, Аб'еднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, Беларускай партыі працы, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, ПКБ, Лібэрал-дэмакратаў) быў падпісаны адмысловы пакт, які прадугледжваў аб'яднаць намаганьні ў правядзеньні акцыі. Напярэдадні адмовіліся ад яе правядзеньня лібэрал-дэмакраты, Партыя камуністаў Беларусі, Партыя працы. Лідэр АГП Анатоль Лябедзька прапаноўваў не праводзіць акцыю ўвосень, а рыхтавацца да веснавых мерапрыемстваў. Нечаканым нават быў дазвол гарвыканкаму на правядзеньне шэсьця ад плошчы Якуба Коласа да Акадэміі навук.

17-га лістапада на плошчы Якуба Коласа сабралася каля тысячы чалавек. Яны несьлі бел-чырвонабелыя сьцягі, штандары Эўразьвязу, плякаты: "Жыве незалежная Беларусь!", "Абаронім незалежнасьць Беларусі", "Беларусь - у Эўропу", "Беларусь - у НАТО!". Удзельнікі шэсьця дайшлі да Акадэміі навук, дзе адбыўся мітынг, выступілі некалькі вядомых беларускіх палітыкаў: Юры Хадыка, Валянціна Палевікова, Павал Севярынец. Старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка заклікаў Лукашэнку сысьці ў адстаўку.

Пасьля мітынгу частка ўдзельнікаў (каля 50 чалавек) прыйшлі да будынку амбасады Расіі, каб перадаць зварот да Пуціна ў абарону незалежнасьці Беларусі. Расейцы пэтыцыю не прынялі.

Цікава, што сайт Радыё Рацыі у сваім рэпартажы назваў колькасьць удзельнікаў акцыі (RR падало лічбу ў 1,5 тыс.) вялікай колькасьцю людзей. Відаць, у Беларусі новыя стандарты на колькасьць людзей на акцыях.

## ПЭРСОНА НОН-ГРАТА

Як ведама, Лукашэнку ня толькі не пусьцілі на саміт НАТО ў Прагу, але наагул забаранілі выяжджаць у краіны Эўразьвязу і ЗША, абвесьціўшы пэрсонай "нон грата". Самы цікавы камэнтар адносна гэтага даў супрацоўнік польскага Цэнтру спэцыяльна-эканамічных дасьледаваньняў Пётра Казаржэўскі заявіўшы, што Лукашэнку нельга ніякім чынам раўняць з тым-жа Садамам Гусэйнам. Гусэйн - гэта асоба, а беларускі прэзыдэнт нашмат драбнейшы. Так што для яго быць пэрсонай "нон грата" вялікі гонар.

## ЗАКРЫВАЮЦЬ ГАЗЭТУ

Толькі 1-га лістапада выйшаў першы нумар недзяржаўнай газеты "Местное время", як Міністэрства інфармацыі абвесьціла, што анулюе пасьведчаньне аб рэгістрацыі. Знайшлі нейкія неадпаведнасьці ў дакумэнтах. Пасьпелі выдаць толькі тры нумары.

## САНЭТЫ КУПАЛЫ

У Мінску выйшла кніга "Санэтаў" Янкі Купалы. Ейная прэзэнтацыя прайшла ў Дзяржаўным літаратурным музэі паэта. Адметнасьць кнігі ў тым, што ў прыгожа афармленае выданьне ўвайшлі 22 санэты паэта па-беларуску, а таксама пераклады іх на ангельскую, гішпанскую, нямецкую, польскую, расейскую, украінскую, францускую мовы. Беларускі паэт і былы рэдактар часапіса "Полымя" Сяргей Законьнікаў зазначыў: "А які ўзор публіцыстыкі ў артыкулах Купалы 20-х гг. Тут ёсьць чаму павучыцца сёньняшнім журналістам, якія пры ўсіх іх талентах, жывуць праблемамі суседняй краіны". Вельмі слушна

## У ЖНІЎНІ 1936-ГА

18-га лістапада на Малой сцэне тэатра Янкі Купалы адбылася незвычайная прэм'ера. Ставілася п'еса гісторыка Віталя Скалабана "У жніўні 36-га". У аснове - стэнаграмы допытаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. П'еса была паказаная ў жанры дакумэнтальнага спэктаклю - тут акторы ня граюць пэрсанажаў, а толькі чытаюць тэксты па ролях. Суправаджаўся паказ музыкай Віталя Залатарова да "Ліста беларускіх пісьменьнікаў".

Сам Віталь Скалабан зазначыў, што гэта толькі адна зь мільёну трагедый, што захоўваюцца ў фондах беларускіх архіваў.

## ПРЭМІЯ ПЭН-ЦЭНТРУ

25-га лістапада была ўручаная штогадовая прэмія імя Францішка Багушэвіча, заснаваная Беларускім ПЭН-цэнтрам. Гэтым разам яе ўручылі кандыдату гістарычных навук Ніне Стужынскай, дасьледчыцы беларускага супраціву 20-х гадоў. Сп-ня Стужынская атрымала прэмію за кнігу "Беларусь мяцежная. З гісторыі антысавецкага ўзброенага руху ў 20-ыя гады". Кніга выйшла ўвесну 2001-га году. Аўтарка зазначыла, што матэрыял для кнігі зьбіраўся 10 гадоў, а яе асноўнай ідэяй зьяўляецца барацьба з абрыдлым штампам пра тое, што беларусы памяркоўная нацыя. Калі трэба было, яны станавіліся агрэсыўнымі: баранілі радзіму, дом, сям'ю.

## МУЗЭЙ ГЭБРАЙСКАГА ГЕТА

У Менску адчыніцца гістарычная лябараторыя, прысьвечаная менскаму гета. Яна разьмесьціцца ў будынку на рагу вуліц Сухой і Калектарнай, у тым раёне, дзе ў вайну было гэбрайскае гета. У гістарычнай лябараторыі будзе архіў, бібліятэка, будуць сабраныя дакумэнты па гета і лягеру сьмерці "Трасьцянец".

24-га лістапада ля гэтага будынку адкрыўся помнік брэмэнскім гэбраям, якіх дэпартавалі зь Нямеччыны ў Менск падчас гітлераўскага рэжыму.

"Гэбрайскае пытаньне" становіцца актуальным апошнім часам у Менску. Вось прэзыдэнт Сусьветнага згуртаваньня беларускіх гэбраяў сабраў 75 подпісаў са 109 дэпутатаў пад зваротам да Лукашэнкі з просьбаю спыніць будаўніцтва жылога дому на месцы былой сінагогі ў Менску, а таксама спыніць канчатковае разбурэньне Халоднай Сінагогі (была пабудаваная ў 1570-м годзе) у Менску.

Наадрэз адмовіўся падпісваць зварот адыёзны Сяргей Касьцян, заявіўшы, што ў нас славянская краіна, а не гэбрайская і жыда-масонская, а яе хочуць ператварыць у аплот сіянізму. "Дурні тыя дэпутаты, хто падпісаў зварот", - былі ягоныя словы.

## НОВЫ ДЫСК ШАЛКЕВІЧА

20-га лістапада ў Доме ветэранаў адбылася прэзэнтацыя новага дыска Віктара Шалкевіча "Добрай раніцы", выпушчанага Беларускай музычнай альтэрнатывай. Гэты дыск - найлепшыя песьні паэта за 10 гадоў. Гэта "Жлобская нацыя", "Смутны беларускі блюз", "Хамская ўлада", "Песьня пра таварышча Сапегу", "Ціхі анёл" ды іншыя. На імпрэзе Шалкевіч прасьпяваў свае найлепшыя песьні, а "Таварышча Сапегу" сьпявала ўся заля.

## АСУДЗІЛІ СЫНА В. КОРБУТ

Суд ЗША прысудзіў сына гімнасткі Вольгі Корбут і Леаніда Барткевіча, 23-гадовага Рычарда Барткевіча, да 3,5 гадоў турмы. Яго прызналі вінаватым у тым, што зь лістапада 2001-га году да лютага 2002-га году на каляровым прынтэры ў бацькоўскім доме пад Атлянтай ён вырабляў 100-даляравыя банкноты (усяго каля 40 банкнотаў). Калі выявілі падробкі, спачатку думалі на Вольгу Корбут, але аказалася, што дарма. Маці на судзе не прысутнічала, яна цяпер жыве ў Флёрыдзе.

*Уласны карэспандэнт*

---

*Працяг з бач. 3*

Сп-ня Ніна Шый адзначыла імкненьне Лукашэнкі зрабіць расейскае праваслаўе дзяржаўнай рэлігіяй і паінфармавала аб прыняцьці закону аб рэлігіях у Беларусі, які дыскрымінуе іншыя канфэсіі, уводзіць цэнзуру на рэлігійную літаратуру, прымусовую перарэгістрацыю рэлігійных супольнасьцяў. Сп-ня Шый падкрэсьліла, што сустрэча Эўразьвязу ў Порта можа стаць нагодай да вынясеньня на разгляд стану рэлігіяў у Беларусі.

На наступнай сэкцыі шэраг спэцыялістаў аналізавалі інфармацыю пра магчымае супрацоўніцтва рэжыму Лукашэнкі з Іракам у вайсковай сфэры й зьвесткі пра пастаўкі Іраку беларускага стратэгічнага ўзбраеньня і пра гандаль зброяй беларускага рэжыму па ўсім сьвеце. Прагучала ацэнка памеру такога гандлю - 10% ад беларускага бюджэту, але гэтыя грошы ў сам бюджэт не трапляюць.

Затым прысутныя на канфэрэнцыі задалі свае пытаньні выступоўцам. Аўтар гэтых радкоў спытаў амбасадара М. Козака наконт пры дбаньні аб правах чалавека ўлічваюцца нацыянальныя правы беларусаў, у тым ліку права на адукацыю ў сваёй мове, і ці зьвяртае ўвагу міжнародная супольнасьць і амэрыканскае грамадзтва на этнацыд беларускага народу рэжымам Лукашэнкі? Адказ на гэтае пытаньне быў такі: "Мы працуем, каб даць беларускаму народу свабоду і дэмакратыю для таго, каб вырашаць усе магчымыя пытаньні грамадзкага жыцьця. Рэшта - гэта справа самога беларускага народу". Кардынатар канфэрэнцыі сп. Сікорскі заявіў у рэпліцы, што наданьне ўвагі нацыянальным праблемам поруч з правамі асобы ёсьць слушным, бо чым больш ўзровень нацыянальнай сьведамасьці насельніцтва, тым больш шанец мае краіна для разьвіцьця дэмакратыі. У кулуарах сп. Козак пагадзіўся з маім цьверджаньнем, што права на разьвіцьцё нацыянальнай культуры ёсьць гэткім-жа важным, як права на бесперашкоднае атрыманьне інфармацыі, або права на шэсьці й дэманстрацыі. Цікавыя пытаньні задалі прысутныя сп. Вячка Станкевіч (Рада БНР), сп-ня Кэты Фіцпатрык (Міжнародная Ліга Правоў Чалавека) ды іншыя.

На апошнім сэкцыйным паседжаньні - "Беларусь пасьля Лукашэнкі", дэманстравалася відэаінтэрв'ю з былым палітвязьнем Андрэем Клімавым. Затым выступі старшыня Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі "Грамада" сп. Станіслаў Шушкевіч. Ён даў аналіз сытуацыі ў Беларусі, адзначыў, што сёньня там фактычна толькі адная дзяржаўная мова - расейская. Кажучы пра дзейнасьць сп. Віка, прамоўца адзначыў ягоныя заслугі па яднаньні апазыцыі, але і адказнасьць за памылковую тактыку і неабгрунтаваны давер да абяцаньняў рэжыму. Дасягненьне "Беларусі без Лукашэнкі" рэальнае толькі пры яднаньні высілкаў і каардынацыі намаганьняў усіх апазыцыйных сілаў.

Затым старшыня Аб'еднанай Грамадзянскай Партыі сп. Анатоль Лябедзька сказаў, што сыход Лукашэнкі ня значыць аўтаматычную дэмакратызацыю Беларусі. Бюракратызм, карупцыя, завуаляваны фашызм і непрыкрыты папулізм ёсьць ідэалягічнай і сацыяльная аснова для рэваншу лукашызму ў будучым. Беларусь мусіць мець збалянсаваную зьнешнюю палітыку, і для ўраўнаваньня расейскага кірунку патрэбныя добрыя адносіны з усімі суседзямі. Польшча можа быць неафіцыйным лабістам інтарэсаў Беларусі ў ЭЗ. Сп. Лябедзька пералічыў шэраг мераў неабходных для палітычнай і эканамічнай трансфармацыі Беларусі.



*Прамаўляе сэнатар Джон МакКейн.*

Старшыня Партыі БНФ сп. Вінцук Вячорка нагадаў, што БНФ быў першай дэмакратычнай арганізацыяй Беларусі за апошнія дзесяцігодзьдзі, і цяпер імкнецца да супрацоўніцтва з усімі сіламі, якім дарагія інтарэсы беларускага народу й незалежнасьці Беларусі. Прамоўца адзначыў, што спадзевы на Расею многіх дзеячоў апазыцыі ня спраўдзіліся, і сёньня найлепшае - патрабаваць, каб яна спыніла ўмяшаньне ў беларускія справы. Патрэбная дапамога міжнароднай супольнасьці. Важнай ёсьць праца недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў у краі й па-за краем, а таксама дзейнасьць арганізацыяў, такіх як Рада БНР, прадстаўнікі якое прысутнічалі на канфэрэнцыі.

З падсумаваньнем вынікаў канфэрэнцыі выступіў сп. Сікорскі. Затым быў абед, падчас якога выступіў сэнатар Джон МакКейн.

Сп. МакКейн сказаў: "Сьвет ня можа цярпець чорнай дзіркі таталітарызму пасярод Эўропы. Гісторыкі могуць дэбатаваць пра ролю Вялікага Княства Літоўскага, пра ўціск царызму, сталінскі тэрор, злачынствы нацызму для беларускага народу. Але відавочна, што сёнешні рэжым у Беларусі ня можа існаваць бяз згоды Расеі, на якой шмат у чым палягае віна за падтрымку кіраўніка рэжыму, які зьнішчае апанэнтаў, зацiскае рот свабодным медыям, выганяе дыпламатаў, руйнуе цэрквы. Лукашэнка трымаецца толькі як квіслінг Расеі. Беларусь падтрымлівае тэрарыстычныя рэжымы, пагражаючы нацыянальнай бясьпецы ЗША. Мы ўважаем, што сябар нашага ворага зьяўляецца нашым ворагам. Калі пасьля 9/11 шмат хто пачынае перагледзаць свае дзеяньні - Лукашэнка навучае іракцаў ужываньню ракетаў, пастаўляе стратэгічную зброю. Трансфармацыя Беларусі адбудзецца, і мы пры гэтым будзем стрымліваць Расею ад спакусы ўмешваца ў беларускія справы. Але новае партнэрства з Расеяй дае і ёй магчымасьць паспрыяць дэмакратыі й зьмене рэжыму ў Беларусі. Усе краіны вольнага сьвету, і перадусім ЗША, мусяць аказаць падтрымку Беларусі. Мы зробім усё, што зможам. Але ўрэшце рэшт увесь цяжар барацьбы й гонар перамогі над рэжымам кладзецца на плечы змагароў у самой Беларусі. Ведайце-ж, што ў гэтым змаганьні мы, увесь вольны сьвет на вашым баку!"

*Віталь ЗАЙКА*

# ЯПІСКАПЫ Й СЬВЯТАРЫ ПАПЦ

## Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ Й ПРЫ ПОЛЬСКІМ ВОЙСКУ НА ЗАХАДЗЕ

*Працяг з папярэдняга нумару*

### Айцец Серафім Краскоўскі

Айцец Серафім Краскоўскі быў беларусам родам зь Віленшчыны. У сьвятары быў рукапакладзены яшчэ да вайны 1939-га году. Перанёс зьдзекі ў высылцы й на катарзе ў СССР. Разам з польскім войскам выехаў з СССР у Іран ў 1942-м годзе. Па прыезьдзе ў Ірак направіў сваю асабістую эвідэнцыю/дакумэнтацыю і пачаў адпраўляць Божыя службы.

З Іраку праз Палестыну, Эгіпет і Міжземнае мора прыплыў у Італію, дзе быў капэлянам 2-й Варшаўскай панцэрнай дывізіі. Быў на фроньце. Усюды адпраўляў Сьвятыя літургіі. Па вайне, у 1947-м годзе, прыехаў у Ангельшчыну, дзе далей вёў душпастырскую працу. На жаль, захварэў на псыхіятрычную хваробу, быў у шпіталі. Памёр і пахаваны ў Ангельшчыне.

### Айец Вячаслаў Тарановіч

Айцец Вячаслаў быў беларусам. Падчас вайны быў на Бацькаўшчыне. Па прыезьдзе ў Ангельшчыну пасяліўся ў Лёндане. Адпраўляў Божыя літургіі ў Лёндане і іншых гарадох, дзе жылі праваслаўныя вернікі. Цяжка працаваў фізычна, каб зарабіць на пражыцьцё. Потым, праз даўжэйшы час, адпраўляў Божыя літургіі ў лёнданскай беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасініі Полацкай.

У Ангельшчыне меў жонку і дачку. Памер і пахаваны каля Лёндану.

### Айцец ...? Макарэвіч

Айцец ...? Макарэвіч быў сьвятаром яшчэ да вайны. Быў беларусам. Па прыбыцьці ў Ангельшчыну (пасьля вайны) пасяліўся ў Лёндане. Пасьля сьмерці япіскапа Савы айцец Макарэвіч займаўся справамі ягонай (Савы) спадчыны. Засталося няведамым, які быў канчатковы вынік гэтай ягонай працы.

Айцец Макарэвіч з Ангельшчыны выехаў у ЗША, дзе быў сьвятаром у беларускай праваслаўнай парафіі. Далейшы ягоны лёс мне няведамы. Ня ведаю таксама, дзе і як ён жыў у ЗША. Можа хто зь беларусаў у ЗША мог-бы напісаць больш пра айца Макарэвіча?

### Айцец ...? Пятручык

Айцец Пятручык таксама прыехаў на Блізкі Ўсход з польскім войскам з СССР. Як мне казалі людзі, якія ведалі айца Пятручыка, рукапалажэньне яго ў сьвятары адбылося на Блізкім Усходзе. Пасьля вайны ён ведамым нам шляхам праз Эгіпет, Міжземнае мора, Італію прыехаў у Ангельшчыну. Пасяліўся ў Лёндане. Абслугоўваў праваслаўныя парафіі па ўсёй Ангельшчыне, дзе не было праваслаўных сьвятароў. Далейшы ягоны лёс застаецца няведамым.

Дзеля паўнаты ўспомню, што быў ён да вайны праўдападобна выкладчыкам праваслаўнай духоўнай сэмінарыі ў Берасьці.

### Айцец Арсені Кажанеўскі

Айцец Арсені быў украінцам з Валыні. Быў у глыбіні СССР адкуль з польскім войскам выехаў у Іран. Потым, як амаль усе жаўнеры гэтага войска, прыехаў у Ангельшчыну. Пасяліўся ў горадзе Лідс (Leeds). У сьвятарства быў рукапакладзены ўжо ў Ангельшчыне.

Айцец Арсені быў добрым чалавекам, добрым мужам, бацькам і сьвятаром. Ведаў, як трэба абыходзіцца зь людзьмі. Меў сваю парафію ў Лідс, але езьдзіў і ў іншыя гарады, як Манчэстэр, Болтон, Сток-он-Трент, каб весьці душпастырскую працу. Быў вельмі паважаным сьвятаром.

Памёр і пахаваны ў горадзе Лідс. Засталася дачка.

### Айцец Іван Сотнікаў

Айцец Іван Сотнікаў быў расейцам і быў рукапакладзены ў сьвятары, здаецца, ужо ў Вялікай Брытаніі. Жыў у горадзе Эдынбургу (Шкотыя), дзе меў сваю парафію. Ад часу да часу езьдзіў у шпіталь у мясцовасьць Пэнлей (Penley) у Валіі, дзе сярод хворых і абслугі былі праваслаўныя людзі.

Памёр і пахаваны ў Эдынбургу.

### Айцец Міхаіл Бажэр'янаў

Айцец Міхаіл Бажэр'янаў быў расейцам. У сьвятары быў рукапакладзены яшчэ да вайны. Паходзіў зь Вільні. Разам з жонкаю быў вывезены на катаргу ў глыбіню СССР. Сам, бяз жонкі, выехаў у Іран з поьскім войскам. Жонка гэтага сьвятара таксама была ў транспарце, накіраваным у Іран. Але, на жаль, у вельмі драматычных абставінах яна не змагла прыехаць у Іран. Дзеля гэтага айцец Міхаіл меў вялікую крыўду да палякаў.

Ад 1942-га году аж да сьмерці ў 1946-м годзе жыў і вёў вельмі актыўную душпастырскую і выдавецкую працу ў лягеры Тэнгэру (Tengeru) каля гарадка Аруша (Arusha) ў Танзаніі. Яго дзейнасьць у Афрыцы заслугоўвае на грунтоўнае апісаньне. Я гэтага тут не раблю, бо ўжо трохі апісаў яго жыцьцё ў Афрыцы ў артыкуле ў газэце "Рунь" нумар 29 за студзень 2000-га году.

Айцец Міхаіл памёр 20.08.1946 году ў шпіталі ў Дар-эс-Салям (Dar es Salaam) у Танзаніі. Там і пахаваны.

### Айцец Мікалай Краўчанка

Аб айцу Мікалаю ведама вельмі мала. Ён успамінаецца ў часапісе "Polski Zolnierz Pravoslavny" ("Польскі Праваслаўны Жаўнер") нумар 10-11 (12-13) за 1946-ы год. Часапіс выходзіў у Італіі. Там на бачыне 16-й пішацца, што айцец Мікалай быў настаяцелем R.O.P.I. парафіі ў Барлэтта (Barletta) ў Італіі. Барлэтта знаходзіцца каля Адрыятычнага мора недалёка ад горада Бары (Bari). Абрэвіятуру R.O.P.I. расшыфраваць не ўдалося.

Далейшы лёс гэтага сьвятара застаецца няведамы.

### Айцец ...? Курылас

Амаль нічога няведама і пра гэтага сьвятара. Ягонае прозьвішча ўспамінае польскі амбасадар ў СССР Станіслаў Кот у тэлеграме ад 05.01.1942 году "хаця ёсьць капэлянам Курылас зь Львову і каля трох тысячаў жаўнераў, набажэнства праваслаўнае ня можа пакуль адбывацца з-за адсутнасьці літургічных кнігаў і рэчаў. Будзем гаварыць у гэтай справе зь мясцоваю царквою. Але, калі-б згода мела хаця-б цень няяснасьці, тады скарыстаем з камплекту, замоўленага ў Стамбуле..."

Аднак набажэнствы для праваслаўных жаўнераў у СССР адбываліся, як, напрыклад, у Бузулуку (на ўсход ад Саратава), аб чым успамінае ксёндз Рышард Грабскі. Вось што ён піша: "...Прыйшлі да вялікае залі ў драўляным бараку, у якім жывуць жаўнеры. У кожную нядзелю і на сьвяты ўсталёўваюць тут алтар, прыходзяць жаўнеры й цывільныя асобы, каб удзельнічаць у Сьв. імшы. Дзеля таго, што былі пры штабе войска таксама сьвятары праваслаўнай веры, пасьля нашай імшы (каталіцкай, М. Ш.) праваслаўны сьвятар (у польскім арыгінале "поп", М. Ш.) адпраўляў Сьвятую літургію для сваіх вернікаў."

Цытаты ўзятыя з польскай кнігі пад назваю "W sowieckim osaczeniu" ("У савецкім асяжэньні"), выдадзенай ў 1991-м годзе ў Лёндане, аўтарам якое ёсьць З. С. Сямашка.

### Забыты сьвятар

Аўтар гэтага артыкула спадкаў прыпадкова ў Ерусаліме ў 1943-м годзе праваслаўнага сьвятара, здаецца, архімандрыта. Я меў зь ім вельмі кароткую гутарку. А ні імя, а ні прозьвішча цяпер ня памятаю. А людзі, якія яго ведалі, паўміралі. Яго звольнілі з польскага войска генэрала Андэрса, з-за чаго меў ён крыўду на палякаў.

### Выдавецтвы ПАПЦ за мяжою

Выдавецкая дзейнасьць ПАПЦ замяжою была сьціплая. На гэта ёсьць некалькі прычынаў: адсутнасьць фінансавай базы, недахоп адпаведных кадраў, частыя пераезды жаўнераў і цывільных асобаў.

Сёньня нам ведамыя наступныя выданьні:

- "Ziarenko Prawoslawnie" ("Праваслаўнае Зернятка"). Часапіс выдаваўся на польскай мове ў 1942-м годзе ў Тэгеране. Выдаваў яго айцец Міхаіл Бажэр'янаў.
- "Promyk Prawoslawny" ("Праваслаўны Прамень"). Часапіс выходзіў на польскай мове на паперы фармату А4. Выдаваў яго айцец Міхаіл Бажэр'янаў ў лягеры Тангеру, каля Арушы, у Танзаніі. Часапіс выдаваўся тры гады аж да 1946-га году. Маюцца дзьве копіі гэтага часапіса, нумары 7 (48) і 8 (49) за красавік 1945-га году.
- розная царкоўная літаратура, дапаможнікі на царкоўнаславянскай мове напісаныя польскім правапісам, якія выдаваў айцец М. Бажэр'янаў.
- "Modlitewnik Prawoslawny" ("Праваслаўны Малітоўнік"), выдадзены ў Найробі ў Кеніі ў 1944-м годзе. Малітоўнік уклаў і апрацаваў айцец М. Бажэр'янаў. 188 бачынаў. Напісаны пераважна на царкоўнаславянскай мове польскім правапісам. (Вышэйназваныя выданьні былі апісаныя больш дэтальна ў нумары 29 газэты "Рунь" за студзень 2000-га году.)
- "Krotki Prawoslawny Modlitewnik" ("Кароткі Праваслаўны Малітоўнік") быў выдадзены ў 1945-м годзе ў Рыме духавенствам ПАПЦ, якое было пры польскім войску. 35 бачынаў. Малітоўнік на царкоўнаславянскай мове, напісаны кірыліцаю з паралельным перакладам на польскую мову. На пачатку малітоўніка ёсьць фатаграфія япіскапа Савы, ікона Госпада Нашага Ісуса Хрыста і ікона Сьвятой Пачаеўскай Божай Маці. Малітоўнік канчаецца польскім нацыянальным гімнам "Яшчэ Польшча не загінула..."
- "Polski Zolnierz Prawoslawny" ("Польскі Праваслаўны Жаўнер"). Ужо сама назва гаворыць, што гэты часапіс быў прызначаны для праваслаўных жаўнераў польскага войска. Часапіс на паперы фармату А4 выдаваўся ў 1944-45-х гадох у Італіі на польскай мове. Артыкулы былі на розныя тэмы. Між іншых была там і хроніка праваслаўнага жыцьця замяжою. Выйшла найменш 13 нумароў. Маю адную копію нумару 10-11 (12-13) за кастрычнік-лістапад 1946-га году.

На вялікі жаль па няведамых прычынах япіскапы Сава і Мацьвей не пакінулі па сабе ніякіх царкоўных архіваў, зь якіх можна было-б больш даведацца зь гісторыі ПАПЦ на чужыне. Што такія архівы былі, у гэтым няма сумніву. Але дзе яны падзеліся?

Аўтар гэтага артыкулу добра разумее, што яго апісаньне ПАПЦ на чужыне ня ёсьць а ні грунтоўнае, а ні поўнае. Ён не карыстаўся ніякімі архівамі, пісаў з памяці. Але быць можа гэты артыкул дасьць штуршок для другіх людзей, якія служылі ў польскім войску замяжою, дапоўніць ці ўдакладніць гісторыю ПАПЦ за межамі Польшчы.

***Міхаіл ШВЭДЗЮК, Ангельшчына***

***На здымках: некаторыя выданьні Польскай Аўтакефальнай Права-***


Jeśli Cerkiew nie jest ci matką,
to i Pan Bóg nie będzie ci ojcem!

Z Bogiem do Ojczyzny!

MODLITEWNIK PRAWOSLAWNY.

Ułożył i opracował: ks. Michał Bożerianow.

Wydawnictwo
Prawosławnego Duszpasterstwa Polskiego
w Afryce.

NAIROBI
1944


KROTKI
PRAWOSŁAWNY
MODLITEWNIK

RZYM 1945


POLSKI ŻOŁNIERZ
PRAWOSŁAWNY

Nr 10-11 (12-13)
PAŹDZIERNIK-LISTOPAD
1946

WŁOCHY
ROK WYDANIA
DRUGI




# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net №12 (442)


# ЛІСТАПАДАЎСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

## АДЗНАЧЭНЬНЕ ЎГОДКАЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ, УРУЧЭНЬНЕ ГАНАРОВЫХ АДЗНАКАЎ АДДЗЕЛУ

9-га лістапада адбыўся чарговы сход аддзелу БАЗА. На пачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка нагадаў прысутным, што 27-га лістапада спаўняецца 82 гады з часу Слуцкага Паўстаньня. У 1920-м годзе насельніцтва Случчыны паднялося на барацьбу супраць расейска-бальшавіцкай навалы. Сілы былі няроўныя, пасьля некалькіх тыдняў баёў беларускія вайсковыя аддзелы мусілі адступіць і былі інтэрнаваныя палякамі. Але чыста вайсковая вартасьць Слуцкага Збройнага Чыну не ідзе ў параўнаньне з вартасьцю грамадзкай і гістарычнай. Слуцкае паўстаньне стала для беларусаў тым, чым ёсьць Фэрмапілы для грэкаў або Аламо для амэрыканцаў. Гэтая падзея зрабілася сымбалем збройнага змаганьня супраць чужынцаў, за свабоду і незалежнасьць свайго краю. Далей сп. Зайка сказаў: "Ахвярнасьць і адданасьць свайму краю, што вялі некалі ў бой случчакоў, не загінулі. У наш час мы маем шмат людзей, якія аддана, не шкадуючы сябе, працавалі й працуюць на карысьць Бацькаўшчыне. І трох такіх людзей мы, ад імя нью ёркскага аддзелу БАЗА, хацелі-б ушанаваць сёньня ганаровымі адзнакамі - залатымі значкамі з выявай Пагоні". Значкі былі адмыслова выраблены сп. Валерам Дворнікам на ўзор гэрбу з тытульнага аркушу Статуту Вялікага Княства Літоўскага.

Першым гэтую адзнаку атрымаў Старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Дзякуючы за ўзнагароду, сп. Шукелойць сказаў, што вельмі крануты ацэнкай ягонай дзейнасьці, а таксама тым, што ўзнагароджаньне адбываецца ў гадавіну Слуцкага Збройнага Чыну. Ён узгадаў, як некалі пры сьвяткаваньні ў Ашмяне адной са Слуцкіх гадавінаў, Макар Краўцоў адзначыў, што сапраўдным героем зьяўляецца народ Случчыны. Так і ён, атрымліваючы ўзнагароду, сказаў, што героем лічыць не сябе, а беларускі народ, што выжыў і змагаецца, нягледзячы на нягоды й выпрабаваньні.

Затым ганаровая адзнака была ўручаная сп. Зянону Пазьняку, заснавальніку Беларускага Народнага Фронту, старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ. У сваім зваротным слове сп. Пазьняк адзначыў, што "...сёньня шмат што, у тым ліку гэрб Пагоня, ўспрымаецца, як дадзенасьць. Між тым яшчэ ня так даўно ніхто і ня думаў, што Пагоня і Бел-чырвона-белы сьцяг у выніку змаганьня адраджэнскіх сілаў будуць афіцыйнымі сымболямі, што Беларусь стане незалежнай. Сёньня край перажывае цяжкія часы. Але галоўнае наперадзе, і гэта - вольная і незалежная Бацькаўшчына, дзеля якой усе мы жывем і дзеім".

Сьледам ганаровую адзнаку атрымаў старшыня Партыі БНФ, адзін з заснавальнікаў адраджэнскага руху найноўшага часу сп. Вінцук Вячорка. Ён падзякаваў за адзнаку, і сказаў: "Рука Пагоні з узьнесеным мечам - гэта рука змагарнай шляхты да новых пакаленьняў ваяроў за Беларусь, рука, якая пасылае сыгнал: "Паўстаньце, перамажыце!" Усьведамляю гэтую адзнаку, як ацэнку дзейнасьці усіх, хто сёньня ў Беларусі змагаецца супраць пра-маскоўскага рэжыму".

Затым са сваім бачаньнем падзей у Беларусі выступіў сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў важнасьць кантактаваньн тут, у Амэрыцы, сусьветная палітыка робіцца ў ЗША. Важнай задачаю ёсьць таксама дапамагчы беларускім людзям усьвядоміць стратэгічныя пытаньні барацьбы за незалежнасьць. Калі беларускаму авангарду ўдалося узяць незалежнасьць у 1991-м годзе, народ быў непадрыхтаваны. Праз гэта нацыянальныя сілы, асягнуўшы незалежнасьць, не здабылі ўлады. У краіне кансалідавалася прамаскоўская пятая калёна. Кебіч, Лукашэнка, іншыя дзялкі імкнуліся перакрычаць адзін аднаго ў адданасьці Маскве. Пагроза расейскага імпэрыялізму тады не атрымала належнай увагі. Калі зьявіўся артыкул "Аб рускім імпэрыялізме і ягонай небясьпецы", пачалося цкаваньне й мэтанакіраваная кампанія па аслабленьні беларускіх нацыянальных сілаў. "Паўзуна" Лукашэнку ацанілі ў Маскве, прывялі да ўлады. І сёньня краіна апынулася ў тупіку, блізкая да страты незалежнасьці. І цяпер, як ніколі, мы мусім усьвядоміць, што гэта - сьмяротная небясьпека.

Трэба, каб не было ілюзіяў наконт Расеі. Захад уяўляе, што там ідуць дэмакратычныя пераўтварэньні й краіна вось-вось далучыцца да клюбу цывілізаваных дзяржаваў. Між тым у Расеі працягваецца палітыка ігнараваньня чалавечага жыцьця, капіталы пераводзяцца на Захад, паўсюль карупцыя й крадзёж. І калі ня будзе спадзяваньня на свае сілы - мы прайграем. Ня трэба ўспрымаць спрэчкі Лукашэнкі з Пуціным як абарону незалежнасьці. Гэта спрэчкі двух злодзеяў пра долю ў нарабаваным майне.

У супрацьдзеяньні ўсяму гэтаму можна абаперціся толькі на наш народ, іншага не дадзена. Таму так неабходнае нацыянальнае асьветніцтва, тлумачэньне небясьпекі страты суверэнітэту, стварэньне найшырокага руху супраць расейскай агрэсіі. Трэба ўлічваць усе варыянты, у тым ліку і варыянт паразы, быць гатовымі да змаганьня ў падпольлі. Таму напачатку верасьня былі створаны Камітэт абароны Бацькаўшчыны, вядзецца праца па стварэньні мясцовых структураў.

Важным кірункам дзейнасьці ёсьць удзел у міжнароднай палітыцы, кантактах й каардынацыі дзейнасьці з урадамі й арганізацыямі краінаў вольнага сьвету.

Затым з інфармацыяй пра сытуацыю ў Беларусі выступіў сп. Вінцук Вячорка. Ён распавёў пра акцыі БНФ па ўшанаваньні памяці змагароў за вольную Беларусь. Спыніўшыся на беларуска-расейскіх адносінах, сп. Вячорка сказаў, што ўльтыматум Пуціна пра "ўваходжаньне губэрніямі" быў ня столькі ў адрас Лукашэнкі, колькі ў адрас Беларусі. Маскоўскія паліт-тэхнолягі высунулі гэтае пудзіла, для шантажу нашага грамадзтва. Гэта знак бяды, але ён мабілізуе на змаганьне. Пытаньне незалежнасьці, якое знаходзілася на задворках сьвядомасьці, выходзіць на першы плян. Трэба тлумачыць важнасьць незалежнасьці для краінаў ва ўсім сьвеце, бо ёсьць яшчэ ў жыхароў Беларусі боязь узяць свой лёс у свае рукі. І трэба разьбіваць гэты страх. Наперадзе выбары, перш мясцовыя, затым парляманцкія. Дамінацыя рэжыму пакідае няшмат шанцаў на посьпех дэмакратычных сілаў. Але выбары - нагода выказацца, выйсьці на інфармацыйную прастору, рэдкая нагода дайсьці да людзей па ўсёй Беларусі. Дайсьці да гэтых людзей - вось задача на выбары. Трэба карыстаць з кожнай нагоды, бо сьвятой мэтай ўсяго ёсьць незалежная Бацькаўшчына.



У палітыцы немагчыма абысьціся без кампрамісаў. Не з усімі нашыя пагляды супадаюць, але максымальна скарыстаць з салідарнасьці й кансалідацыі на сваю карысьць, на карысьць Беларусі - вось нашая задача.

Расейскія дэмакраты, пэўныя эўрапейскія палітыкі прапануюць нам фальшывую дылему: або дэмакратыя з Расеяй, або - незалежнасьць з дыктатарам. Некаторыя зь беларусаў клюнулі на гэта, але большасьць палітычных сілаў верыць, што незалежнасьць і дэмакратыя мажлівыя і без дыктатуры, і без Расеі.

Сп. Вячорка распавёў пра сваю паездку па ЗША ў складзе дэлегацыі дэмакратычных сілаў Беларусі, пра плянуемыя акцыі Партыі БНФ: "Акцыю за незалежнасьць і свабоду", збор подпісаў пад адозваю да ўрадаў сьвету аб выкананьні Будапескіх пагадненьняў аб гарантыях незалежнасьці Беларусі. Прысутныя на сходзе змаглі паставіць свае подпісы пад гэтай адозваю.

Затым са сваімі назіраньнямі пра сытуацыю ў Беларусі й стан справаў у незалежніцкіх сілах выступіў сп. Антон Шукелойць. Ён адзначыў, што слова "пагром" па звычцы ўжываецца толькі адносна рэпрэсіяў супраць габраяў. Але гэтае слова ў поўнай меры датычыць дзеяньняў лукашэнкавага рэжыму ў адносінах да свайго народу, ягонай мовы й культуры. Сп. Шукелойць адзначыў, што змаганьне супраць гэтага рэжыму мусіць весьціся разам усімі палітычнымі сіламі. На прыкладах з уласнага досьведу сп. Шукелойць адзначыў, што аснова беларускага адраджэньня - гэта рух моладзі, бо толькі з моладзьдзю і праз моладзь адбываецца пераняцьце справы змаганьня за вольную Беларусь.

Пасьля гэтага прамоўцы адказалі на пытаньні. У "Розным" прысутныя маглі пазнаёміцца зь людзямі, што ўпершыню прыйшлі на сход, паслухаць паведамленьні й абвесткі. Пасьля сходу можна было ў неафіцыйнай абстаноўцы пагутарыць з гасьцямі, пачаставацца з багатага стала прыгатаванага да сустрэчы.

***Віталь ЗАЙКА***

***На здымку: прамаўляе госьць сходу Вінцук Вячорка.***

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

### Складкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Р. Гаруш | .30 | У. Рэзьвінская | .30 |
| А. Гаўрылаў | .30 | А. Сапун | .30 |
| Т. Кліменка | .30 | Г. Сапун | .30 |
| Л. Кудрук | .30 | Л. Якаўлева | .30 |
| З. Левіт | .30 | М. Дулько | .15 |
| Дз. Мірва | .30 | | |

Шчыры дзякуй!

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЕРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 14 СЬНЕЖНЯ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ: *166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***

***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

## УПЛАТЫ Ў АДДЗЕЛ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

### Сяброўскія складкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Я. Азарка | 36 | Л. Шурак | 36 |
| Ю. Азарка | 36 | А. Субота | 36 |
| М. Абрамчык | 36 | Л. Стагановіч | 36 |
| В. Дубяга | 36 | Я. Сапежынскі | 36 |
| В. Кажан | 36 | Ю. Кіпель | 36 |
| Л. Кажан | 36 | Л. Кіпель | 36 |
| А. Даніловіч | 24 | С. Трыгубовіч | 36 |
| Я. Запруднік | 100 | В. Станкевіч | 24 |
| М. Каранеўскі | 36 | Я. Кажан | 20 |
| А. Крыштаповіч | 12 | | |

Справаздачу склаў скарбнік аддзелу Янка Азарка

# НЯ МЕЧ, А ДУХ ВЫРАШАЕ ЛЁС ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

Тое, што з нараджэньня, з даўняга дзяцінства кожнага беларуса знаходзіцца на ўскрайку гістарычнай сьвядомасьці, і ёсьць сапраўдным эпіцэнтрам усьведамленьня таго, хто мы й адкуль. Бо каго з нас пакідалі раўнадушнымі старажытная беларуская песьня, бабуліна старая вышыванка ў куфэрку або вышываны абрус на стале, ці відовішчы падмуркаў разбураных цэркваў і касьцёлаў, палацаў і замкаў? Міжволі кожны задумваўся:"Хто-ж гэткі варвар і дзеля чаго зруйнаваў усё гэтае сьвятое?" Ды нават і рэшткі даўніны хвалюючь душу ўсьведамленьнем былой велічы нашага народу і нашае дзяржавы!

Менавіта таму нашыя ворагі ў першую чаргу нішчылі й па сёньня нішчаць усё, што узвышае наш дух і ўласную годнасьць. Вядзецца мэтанакіраванае разбурэньне архітэктурных і літаратурных помнікаў, твораў мастацтва. Ідзе рабаваньне дашчэнту, расьцягваньне па сьвету, зьнішчэньне традыцыйнае культуры, і у першую чаргу, мовы, якая зьяўляецца асноўным апірышчам любой нацыі, пазбаўляючы нас тых крылаў, якія ўсяму сьвету, а найперш самым сабе сьведчаць, што мы, беларусы, ёсьць народ адметны ад іншых і непаўторны.

Таму мабыць стагодзьдзе за стагодзьдзем ворагамі нашага народу і дзяржавы вядзецца паляваньне на тое, што даражэй золата і ўсіх дыямэнтаў сьвету, што недасягальна вышэй матэрыяльнага - наш нацыянальны дух і жыцьцё носьбітаў гэтага духу, на тых, хто не скараецца, на выдатнейшых сыноў і дачок зямлі беларускай. У мірны, здавалася-б, час Радзіму нашую ўсьцілаюць магілы няскораных лепшых людзей, зьнішчаных фізычна. Працягваецца даўняе "дзікае паляваньне" па вынішчэньню нашае нацыі.

Хто той нечысьцівец? Чорныя злобныя груганы й шэранькія зайздросьлівыя гультаяватыя вераб'і, надзеленыя ўладаю некалі царамі, потым камуністычнай партыяй, а цяпер - ягадкамі таго рэжыму гэбістамі, што прыйшлі да ўлады й цяпер нішчаць усё і ўсіх, хто ня згодны зь імі. Бо прыгнятальнікам патрэбен народ бяскрылы, бязмоўны.

Зноў навідавоку даўняя ісьціна, што лёс нацыі вырашае ня меч, а дух.

4-га сьнежня 1928-га году ў Талачыне нарадзіўся Лявон Баразна. Прырода навакольнага краю і родны люд абудзілі ў ім рамантычную душу мастака. 19-гадовы Лявон паступіў у мастацкую вучэльню ў Менску, дзе навучаўся да 1955-га году. Выкладчыкі прарочылі яму вялікае мастацкае будучае. Было відавочным, што ён валодаў тонкім пачуцьцём колеру і паветранай перспэктывы. Краявіды, напісаныя пэнзлем Лявона Баразны, былі поўныя такога шчымліва-пранізьлівага лірызму, што, здавалася, перадавалі ня толькі настрой, але і гукі роднай зямлі. Ягоныя алейныя партрэты "не прэтэнцыёзныя, адметныя выяўленчай прастатою і вялікаю цеплынёю ў адлюстраваньні ўнутранага сьвету чалавека". "Увогуле, для ўсіх ягоных працаў раньняга перыяду ўласьцівыя густоўная выяўленчая сьціпласьць і стрыманасьць рэалістычнай манеры пісьма". Так пісаў пра мастака кандыдат мастацтвазнаўства Зянон Пазьняк, здаецца, у часапісе "Мастацтва" ў 1974-м годзе.

Мастак ведаў, што нашая народная творчасьць яшчэ мала вывучаная і сабраная. Ён разумеў значэньне нацыянальнае культуры й, як Язэп Драздовіч,ператвараўся ў вандроўнага мастака-дасьледчыка. У той час бракавала транспартных сродкаў ня толькі паміж вяскамі, але і паміж райцэнтрамі. "Таму мастак з неабходным рыштункам і кіём у руцэ хадзіў пешшу ад сяла да сяла. Для яго гэта быў своеасаблівы рытуал, акт пасьвячэньня народу, сымбаль служэньня роднай зямлі" - пісаў З. Пазьняк.

Перад дабразычлівым і рамантычна-узьнёслым мастаком людзі адкрывалі ня толькі куфры, а і душы. Лявон зрабіў мноства этнаграфічных замалёвак арнамэнтаў і нацыянальных строяў. У выніку ім мабылі створаныя тры альбомы малюнкаў: "Беларускі народны арнамэнт Палесься" (1957 год), "Беларуская народная вопратка (1958 год), "Арнамэнты Гродзеншчыны" (1960 год).



*Лявон Баразна на пачатку вандроўкі. Здымак 2-й паловы 1950-х гадоў.*

Лявон Баразна быў адным зь першапраходнікаў, які зрабіў вялікую працу па збору і клясыфікацыі беларускай народнай вопраткі й строяў. Паралельна з навучаньнем у 1962-68-м гадох у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, ён быў галоўным мастаком фонду Саюзу мастакоў БССР (1966-69 гады), удзельнічаў у выставах, займаўся навукова-дасьледчай дзейнасьцю, маляваў графіку, акварэлі.

У тыя-ж гады, з 1963-га па 1972-гі, грунтуючыся на здабытых ведах, Лявон стварае сцэнічныя касьцюмы розных часоў уласьцівыя розным мясцовасьцям і слаям насельніцтва, стараючыся пазьбегнуць уніформы ў строях артыстаў.

З густоўнымі й умела скарыстанымі арнамэнтамі, ужыванымі ў старадаўняй Беларусі, згарманізаманыя па колеру, з уводам народнай вышыўкі, ткацтва і натуральных тканінаў, выразныя па сілуэту без дылетанцкай бутафорнасьці сцэнічныя строі Лявона Баразны стварылі сапраўдны мастацкі пераварот, акрэсьліўшы тэндэнцыі й перспэктывы разьвіцьця сцэнічнага беларускага народнага касьцюму. Баразна паставіў справу на прафэсыйную глебу, паказаўшы ва ўсім яго багацьці, разнастайнасьці, гармоніі й харастве беларускі строй.

**У апошнія гады жыцьця Л. Баразна стварыў для Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі малюнкі па гісторыі беларускага адзеньня ад XI-га стагодзьдзя да сёньняшняга дня. Ён падрыхтаваў і выдаў манаграфію "Гравюры Францішка Скарыны" (1972 год) - самы поўны збор усіх вядомых гравюраў вялікага гуманіста.**

**Выяўленчая манэра Лявона Баразны, якая зьмянялася пад уплывам народнага** мастацтва, набыла дэкаратыўнасьць, схільнасьць да імпрэсыянізму. Аб гэтым сьведчаць шмат ягоных малюнкаў, накідаў, плякатаў, паштовак, вітражоў.

Лявон выдатна разумеў значэньне сваёй працы па вывучэньні этнаграфічнага мастацтва і адзеньня Беларусі, таму ён імкнуўся надрукаваць свае альбомы.

Мастак быў вялікім беларускім патрыётам, выхаваным на спадчыне нашых продкаў, і таму не выпадкова ён стаўся адкрытым змагаром за захаваньне беларускай мовы, этнаграфіі, геральдыкі, архітэктурных помнікаў. Ведама, што ў часы абсалютовай улады КПСС нават выпадковае слова ўплывала на лёсы. Калі зьявіўся зьневажаючы народ лёзунг "Хто першым пяройдзе на расейскую мову, той першым прыйдзе да камунізму", шмат кім так паважаны Машэраў з услужлівым хрустаў у сьпіне запэўніў сваё кіраўніцтва, што ён ня будзе "выпячываць беларускій язык", і пачаў дзейнічаць. Па ўсёй Беларусі беларускія школы пачалі пераводзіць на расейскую мову.

Аб Машэраве наўмысна распаўсюджвалі й распаўсюджваюць легенды, як аб дабрадзеі беларусаў. А менавіта пры Машэраве пачаўся наступ на беларускія школы, перасталі рыхтаваць беларускамоўных настаўнікаў, скарацілася выданьне беларускіх падручнікаў. Менавіта ён быў правадніком палітыкі па зьнішчэньню, лоўка названых "нерэнтабельнымі", тысячаў беларускіх вёсак, старажытных забудоваў, вуліц і назваў іх. Фактычна, гэты "дабрадзей" утварыў вялікі пагром па разбурэньню этнічнай культуры, найперш, мовы, што сталася для нас катастрофаю, амаль татальнаю зьяваю.

У 1967-м годзе на адно з партыйных паседжаньняў, дзе абмяркоўваліся пытаньні фальклёрнай дэкады, прысьвечанай дзевяцьсотгодзьдзю Менска, быў запрошаны Лявон Баразна. Мастак запярэчыў партыйцам, што ўсё афармленьне сьвята павінна быць па-беларуску. Гэтыя словы аж узьбясілі Машэрава.

У 1969-м годзе Зянон Пазьняк напісаў ліст у газэту "Правда" ў абарону менскай Нямігі, і ніхто не адважыўся падпісацца разам зь ім акрамя Лявона Баразны. Ліст той надрукавалі, і Машэраў, які быў галоўным завадатарам разбурэньня старой Нямігі, тады заявіў: "Я не знаю, кто этот Пазьняк, но этого націоналіста Баразну мы остановім!" У выніку надрукаваньня таго ліста разбурэньне Нямігі ўдалося затрымаць на тры гады.

Усім гэтым "інтэрнацыяналістам" на чале з Машэравым Баразна быў як бяльмо на воку. Аднойчы летнім вечарам, калі мастак вяртаўся ў сваю майстэрню, ён убачыў, як двое малойцаў пачалі абражаць маладую жанчыну, цягнуць яе ў двор непадалёку ад кінатэатра "Победа". Побач быў міліцэйскі пастарунак, зь якога, закончыўшы дзяжурства, выйшаў міліцыянт. Лявон паклікаў яго на дапамогу і першым кінуўся бараніць жанчыну. Падбегшы міліцыянт бачыў, як Лявон, узмахнуўшы рукамі, са словамі: "Сэрца... маё сэрца..." асунуўся на зямлю. Жанчыны недзе зьнікла. Міліцыянт быў лёгка паранены.

На судзе высьветлілася, што гэтыя бандыты, абодва беспрацоўныя, прыехалі з расейскага гораду Калініна і былі сынамі палкоўніка КГБ, начальніка аховы Савета Міністраў БССР Золатава. Машэраў выказаў сваю антыпатыю да забітага мастака, і тым самым паспрыяў ухіленьню забойцаў ад вышэйшай меры пакараньня. Старэйшаму 28-гадоваму бандыту далі 15 гадоў турмы, а малодшаму 23-гадоваму - 8 гадоў. Старэйшы забойца пачаў прытвараца, што ён звар'яцеў, паўтараючы: "Я сын Сталіна". І хоць дактары не знайшлі ў ягоным здароў'і ніякіх адхіленьняў ад нормы, але тэрміны зьняволеньня забойцам скарацілі, першаму да 5 гадоў, другому да 3-х.

Так, выконваючы свой грамадзянскі абавязак, загінуў вечарам 15-га жніўня 1972-га году мастак Лвон Баразна на 44-м годзе жыцьця, поўны сілаў, праектаў і спадзяваньняў, быў забіты (ёсьць падставы меркаваць наёмныі забойцамі) нажом у сэрца, якое так прагнула жыць і працаваць.

Усе тры альбомы Лявона Баразны, якія ён так і не пасьпеў выдаць, сталі ўласнасьцю Дзяржаўнага мастацкага музэя Беларусі. У 1975-м годзе адбылася пасьмяротная выстава працаў мастака, на якой экспанавалася добрая палова малюнкаў альбому "Беларуская нацыянальная вопрадтка", які мае асабліва вялікую навукова-мастацкую каштоўнасьць.

У 1992-м годзе мне захацелася бліжэй пазнаёміцца з тымі альбомамі. Супрацоўнікі музэя ледзь ўзгадалі, дзе знаходзіцца толькі адзін зь іх, "Беларускія народныя арнамэнты Палесься". Яны выцягнулі ягоаднекуль знізу запыленым, некаторыя старонкі былі ўжо пашкоджаныя. Маё сэрца аж зайшлося. Ці-ж такога лёсу вартая гэтая тытанічная праца? Што можна сказаць? Нам нельга "спаць у шапку"!

Прайшло 30 гадоў, як перастала біцца сэрца мастака. І дзе тыя альбомы цяпер? Добра, калі цэлыя. Хто-ж ведае? У наступным годзе Лявону Баразьне споўнілася-б 75 гадоў. Ці не час усім нам аддаць яму дань павагі, на якую ён сапраўды заслугоўвае, і выдаць тыя альбомы, ня гледзячы на ўсе перашкоды, каб гэта сталася своеасаблівым помнікам ягонаму шчыраму беларускаму сэрцу, бо мастацкія дасягненьні Лявона Баразны ў галіне народнага сцэнічнага касьцюму і этнаграфічным дасьледаваньні беларускага народнага адзеньня зьяўляецца фактам бясспрэчным, скіраваным менавіта на тое, каб жыў ДУХ наш!

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

# ШТО РОБІЦЬ РАДА БНР




***Ад Рэдакцыі**: Сярод чытачоў "Беларуса" ёсьць суродзічы, якія недастаткова паінфармаваныя аб Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, ейных заданьнях і сучаснай дзейнасьці. Мы зьвярнуліся ў Сакратарыят Інфармацыі Рады БНР з просьбай паінфармаваць пра дзейнасьць Рады. Ніжэй зьмяшчаем адказ.*

Беларусы павінны ведаць і сваю гісторыю, і сваю палітычную сучаснасьць. Такая паінфармаванасьць вельмі патрэбная, бо яна ўплывае на нашу калектыўную актыўнасьць ды на ход таго вялікага змаганьня за свабоду, што вядзецца цяпер на Бацькаўшчыне.

У Беларусі ды па-за ейнымі межамі патрыёты вядуць абарону сувэрэнітэту й незалежнасьці беларускае дзяржавы. Канцэптуальныя й прававыя падмуркі гэтае дзяржавы, Беларускае Народнае Рэспублікі, былі закладзеная тварцамі Акту 25-га Сакавіка 1918-га году. Больш за 80 гадоў Рада БНР стаіць на варце ідэі незалежнасьці, не дае забыцца аб праве беларускага народу быць гаспадаром свае зямлі.

Апошнімі гадамі, ад часу ўсталяваньня ў Беларусі дыктатарскага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, Рада БНР уважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі ды намагаецца пашыраць і ўмацоўваць пазыцыі абаронцаў беларускай дзяржаўнасьці й дэмакратыі.

Вельмі важнаю справаю для Рады БНР было й застаецца інфармаваньне замежных урадаў аб пагрозе беларускай незалежнасьці з боку Расеі ў сувязі з падпісанымі паміж Менскам і Крамлём пагадненьнямі аб так званай інтэграцыі, што пагражае праглынуць дзяржаўнасьць Беларусі.

За апошнія гады былі высланыя ад імя Рады сотні лістоў і мэмарандумаў з аргумэнтамі на карысьць незалежнасьці дэмакратычнай Беларусі як фактару стабільнасьці Ўсходняй Эўропы. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла гаворыць пра гэта ў сваіх шматлікіх інтэрв'ю замежным карэспандэнтам, мела цэлы шэраг спатканьняў з палітыкамі й дзяржаўнымі лідэрамі ў розных краінах, брала ўдзел у канфэрэнцыях, выступала на беларускіх форумах з тлумачэньнем пазыцыі Рады БНР у дачыненьні да падзеяў у Беларусі.

Каб магчы праводзіць усю гэтую дзейнасьць, патрэбныя, зразумела, фінансавыя сродкі. Іх можна атрымаць толькі ад свайго грамадзтва, ад самых радных ды прыхільнікаў ідэі незалежнасьці Беларусі, бо няма ніякіх іншых крыніцаў. Фінансы патрэбныя толькі на збор і пашыраньне інфармацыі, але й на пасільнае падтрымваньне найбольш важных палітычных ініцыятываў ды культурных праектаў як у замежжы, гэтак і на Бацькаўшчыне. Вялікую працу ў зьбіраньні грошай прарабілі за апошнія гады й далей робяць Скарбнік Рады сп. Віталь Кажан ды тыя суродзічы, якія бяруць удзел у зборы ахвяраў на "Дар Сакавіка" ці проста самі прысылаюць ахвяраваньні.

Дзейнасьць Рады БНР робіць уплыў на стан нацыянальнае сьведамасьці беларускага грамадзтва. Уплыў гэты будзе тым глыбейшы, чым шырэйшая будзе падтрымка Радзе. Пра гэта трэба памятаць. Бо, як пісаў год таму ўплывовы брытанскі тыднёвік "Эканаміст" (успамінаючы пры гэтым і Раду БНР), экзыльныя ўрады робяць справу адным сваім існаваньнем, а тым больш, калі яны эфэктыўныя, калі карыстаюцца падтрымкаю дыяспары.

Адным з важных заданьняў для Рады БНР на сучасным этапе змаганьня застаецца ўплываць на электарат у Беларусі, пашыраючы ў ім перакананасьць, што ў незалежнай і дэмакратычнай Беларусі ляжаць найбольшыя шанцы на матэрыяльны й духовы дабрабыт для ўсіх грамадзянаў. Рада БНР глыбака ўсьведамляе сабе, што толькі ў супольных намаганьнях усяго беларускага народу зможа ўжыцьцёвіцца ідэя вольнай, сувэрэннай і заможнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Жыве Беларусь!**

***Сакратарыят Інфармацыі Рады БНР***

## ПАДПІСКА

**на беларускія газэты на першую палову 2003-га году**

**З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа**

| | *Назва выданьня* | *Перыядыч. друку* | *Кошт, $* |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва** | 4 на месяц | 60 |
| | **Наша Слова** | 4 на месяц | 20 |
| | **Народная Воля** | 20 на месяц | 100 |
| | **Новы час** | 2 на месяц | 30 |
| Часапісы: | **Arche** | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | **Дзеяслоў** | 3 на 6 месяцаў | 30 |

**Для жыхароў Беларусі** (для сваякоў ці знаёмых)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва** | 4 на месяц | 10 |
| | **Наша Слова** | 4 на месяц | 5 |
| | **Народная Воля** | 20 на месяц | 20 |
| | **Новы час** | 2 на месяц | 10 |

Газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.

***Падпіска працягнецца да 18-га сьнежня 2002-га году.***

*Замовы й аплату дасылайце, калі ласка, на адрас:*

***Marat Klakotski***
***5 West Court***
***Amityville, NY 11701***

## УЛАДЗІМЕР БРЫЛЕЎСКІ
## (16.08.1917 - 01.11.2002)

**1-га лістапада 2002-га году адыйшоў ад нас шчыры беларус, сталы падпісчык нашае газэты Уладзімер Брылеўскі. Пахаваны на могілках царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры.**

**Пакінуў у смутку жонку Лёнгіну і дзьве сястры ў Беларусі.**

**Хай будзе яму пухам амэрыканская зямля.**

**Вечная памяць!**

**Выказваем спачуваньне ПЁТРУ ДРАБЫШЭЎСКАМУ з нагоды сьмерці бацькі.**

***Газэта "БЕЛАРУС"** надрукуе бясплатна кароткія прыватныя абвесткі некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*

***ДАСЫЛАЙЦЕ КАЛЯДНЫЯ ВІНШАВАНЬНІ!***

*Відэакасэту сэмінару*

**"Я МАГУ ЖЫЦЬ ЛЕПЕЙ!"**

*ужо можна набыць у Беларусі й замяжою. Сэмінар дапасаваны да падручніка і прадаецца разам зь ім для хатняга карыстаньня. Ён запісаны й аформлены пад кіраўніцтвам ведамага рэжысэра дакумэнтальных фільмаў АЛЕГА ДАШКЕВІЧА. Працягласьць сэмінару няцэлыя дзьве гадзіны, і гледачы маюць магчымасьць падмацаваць сваё азнаямленьне з пытаньнямі самапалепшаньня ва ўсіх сфэрах жыцьця на чарговым дапаўняльным сэмінары.*

*Каб набыць відэакасэту або атрымаць больш інфармацыі зьвяртайцеся да **Вячкі Станкевіча** па тэлефону **(732) 222-1951** або праз электронную пошту на адрас* ***stankievichw@hotmail.com**.*

*Увесь прыбытак ідзе на пакрыцьцё коштаў сэмінаравага праекту.*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ананімна | 1000 | П. Каян | 30 |
| К. Акула | 108 | Т. Кліменка | 30 |
| М. Смаршчок | 100 | Дз. Мірва | 30 |
| Г. і Л. Баньдзік | 60 | В. Несьцяровіч | 30 |
| І. Ільчук | 60 | А. і В. Пархамчук | 30 |
| Л. Мурог | 60 | У. Рэзьвінская | 30 |
| П. Драбышэўскі | 50 | А. Сапун | 30 |
| Н. Няпейн | 50 | Т. Стагановіч | 30 |
| Я. Сапежынскі | 50 | Дз. Сяляўка | 30 |
| С. Міровіч | 40 | А. і В. Шчэцька | 30 |
| С. Белая | 30 | Л. Якаўлева | 30 |
| Р. Гарупа | 30 | А. Яраховіч | 30 |
| А. Гаўрылаў | 30 | Л. Брылеўская | 25 |
| М. Грыбок | 30 | М. і К. Верабей | 20 |
| М. Дулько | 30 | П. Грыгальчык | 20 |
| А. Івановіч | 30 | З. Левіт | 20 |

**Замест кветак на магілу Л. Норыка:**

Н. і Я. Запруднік .......50

**Замест кветак на магілу У. Брылеўскага:**

Л. Літаровіч ..........50

**Замест кветак на магілу М. Рагулі:**

Л. і Б. Рагуля .........150

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**

***Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце***

***Выдае штомесячна БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***

***Падпіска $30 на год***

***Чэкі выпісвайце на BIELARUS***

**BIELARUS**

***Belarusan Newspaper in the Free World***

***Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***

***Subscription $30 yearly***

***Make checks payable to BIELARUS***

***Рэдагуе калегія.***

*Адказны рэдактар*

***Марат Клакоцкі***

*Падпіска*

***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*



**Адрас для допісаў і кантактаў:**

BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**E-mail:**
hazetabielarus@att.net

**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org